**Анатоль Парэмбскі** нарадзіўся ў 1927 годзе ў Страшаве. Усё жыццё пражыў на Гарадоцкай зямлі – у Страшаве, Мастаўлянах, на Станцыі Валілы.

Усё жыццё расказвае ў вершах пра тутэйшасць – былое-гістарычнае ды цяперашняе, каменціруе яго лірычна, публіцыстычна і жартам. З'яўляецца актыўным членам Літаратурнага згуртавання „Каласы" ў Гарадку. Выдаў зборнік вершаў „Хвалі лёсу". У зборнік „Тут былі і будзем" уключаны творы краязнаўчага, гістарычнага, сатырычнага і лірычнага характару, якія каменціруюць падзеі актуальныя не толькі на тэрыторыі найбліжэйшай пажылому паэту-селяніну. Прыгожа апісвае ён родныя краявіды, чалавечы лёс у гісторыі, даўнейшую і сучасную гісторыю старадаўнага горада Хадкевічаў і прападаючых забытых вёсак, якія засталіся ў яго памяці як бурліўшыя жыццём. Не толькі настальгія прамаўляе з твораў Анатоля Парэмбскага. Ён – выдатны сатырык! Вось верш „Выкідайце тэлевізар" стаў вельмі папулярным не толькі сярод моладзі. Класічная форма вершаў, якая даспадобы ўмеламу аўтару, спрычыняецца да таго, што ахвотна выкарыстоўваюць іх тутэйшыя музыкі як словы песень („Кацярынка"). Думаю, што новы зборнік будзе таксама знакамітым дапаможнікам для настаўнікаў беларускай мовы не толькі ў школах на Гарадоччыне – як прыклад жывой мовы і збор актуальных тэкстаў для дэкламацыі і аналізу.

*Міра Лукша*

## Долар і нафта

Трэці год дваццаць першага веку.
Камп'ютары, мабільнікі, радары.
Штораз болей жыццё чалавека
Вызначаюць ідэі, даляры.
Інквізіцыя была святая,
Бута Гітлера, Сталіна культ...
Стала стратэгія нова дурная,
Банды, тэрарызм, на свеце тумульт.
На *ваенкэ* рушылі палякі,
Бо хацеў так пранырлівы Буш.
Іх ніхто не чакаў у Іраку,
У Багдадзе ні к чаму *анёл-струж.*
Тэрарызму ніхто не ўсхваляе,
А яго сатварыў капітал.
За даляры нашколілі зграяў
І ў рукі далі арсэнал.
Гінуць людзі ў Іраку, Каўказе,
Бо там нафтаю пахне тузам.
А чаго там палякам улазіць
І вяртацца ў трунах назад?
Захапляе свет глабалізацыя,
Алігархіі момант настаў.
Запаноўвае дэманізацыя.
Бог закладнікам у д'ябла стаў!

## Дэмакратыя

Завітала ў край наш дэмакратыя
Да карыта ціснуцца (п)аслы.
І ніхто не знае чыя рацыя –
Рабіна, пастара ці мулы.
Мы гняздо роднае паразвальвалі,
Будзем жыць дзе вочы панясуць.
Камуністы нас напаабманвалі,
Што ў Еўропе есці не даюць.
І цяпер падспеўваем, падгопваем,
Пэрэлёўскую ўладу праклялі.
Дайце нам нацешыцца Еўропаю,
Быццам мы на полюсе жылі.
Унія, кахана наша унія,
Ой, прыходзь хутчэй да нас, прыходзь!
Будзе ў нас паўшэхная камунія!
Унія, жыццё нам асалодзь!
Мы к табе прыступім на ахвотніка,
Будзеш нас ільготна трактаваць.
Забяры што пятага работніка:
Будзе пану соплі выціраць.
Выкупляй білет у адну сторану.
Дзе прыстанак? Скуль ты можаш знаць?
Кракаць надаесць бы таму ворану.
Прызямліцца там, хто сеці дасць?

Расстанешся з сваёй халупаю,
Капітал нам „плуца” загарне.
Астанемся із парванай пупаю.
А прыстанак твой будзе – на дне.

## Блукалі па свеце

Грэшнікаў бог толькі знае;
Можа ў блакноце часам і прыкмеціў,
Калі ён іх выганіў з раю.
І на зямлі пашыраецца рэша
Грэшнікаў ад Евы і Адама.
Хоць у сапраўднасці грэшнымі не былі
Нігды ні тата ані мама.
Відна, нікому не прыгадзіліся
Песні святыя Майсея.
Пекла па берагі людзьмі запоўнена,
А па раю вецер вее.
Смутна зрабілася богу ўсявышняму.
Выслаў Хрыста на ратунак.
Богу кланяемся, няшчыра каемся,
Недазволены п’ем трунак.
Чорт нам падкідвае розныя пакасці,
Трудна перад ім бараніцца.
Няшчыра молімся, з брацьмі не годзімся,
А знаем, што так не гадзіцца.
Дваццаць стогоддзяў ужо правалілась
Божай Хрыстовай навукі.
А на зямлі нашай цуднай, багатай
Множацца беды і мукі.
Эліты не знаюць чым раскашавацца

І рай у палацах ствараюць.
Дзеці галодныя і безработныя
На літасць бога чакаюць.
Знайце пра гэта, паны і падпанкі,
Бог Леніна зноў нам падкіне.
Скруцім тады мы вас у абаранку
І выкінем свінням.

## Чалавек, істота...

Чалавек – істота свету –
Знае многа, хоча болей,
Хоча заўладаць сусветам.
Ці то гэта яго доля?

Падкрадае ў Бога веды.
Мо Бог сам дае яму іх?
Сцеражы нас, Божа, схеды,
Хай загіне сам злы выпых.

Агонь мае, мае кола
І атомы, і ракеты,
Пазнаходзіў вакол сонца
Усе сямейныя планеты.

Чалавек ступіў на Месяц,
Апарат пландруе Марса...
Мо спаткаем Бога ў небе,
Пакуль нам свяча не згасла?

Хутчэй таго з пекла родам!
Ён прыцісне це да муру!
Як відаць, прыгатаўляе
Для цікавых чорну дзюру!

## Новая культура

Новая ў нас культура дзе ні едзеш, дзе ні йдзеш.
Альбо трык, альбо хаўтура, бізнэс, торг і магіа-флеш.
На экранах толькі ўбачыш гвалт, бандытаў і грабеж.
Альбо карнавал сабачы, крык з'ядлівы і мяцеж.
Із культураю навучаць ашукаць, забіць і красць,
Чалавека як замучыць, выкуп за яго ўзяць.
Калі захварэў бядняга – рак або туберкулёз.
Пакуль выплацім візіт дык старшым забракуе слёз.
Працаваў так, як казалі, нават па дванаццаць у дзень.
Надлічбовыя прапалі. Зарабіў на соль як-лень.
І хоць шчыра працавалі, не хапіла на заплату,
А заплату бяруць далей прэзасы і сындык-каты.
Педагогаў дражняць платай, а вучэльні будуць „люлю",
Касы хроняцца ад стратаў,  а медсёстры маюць дулю.
Тры мільёны беспрацоўных – дар на свята Першы мая.
Еўразвяз даў дабрабыт, як відаць – *кукулчэ яя.*
А мужык бядоцік горкі, яму вецер у вочы ўсюды,
І ў жондзе, у парламенце чуеш толькі: „Вон да буды!"
Рукі працы не дасягнуць, ісці ж красці – не гадзіцца.
З лыка лапці ўзуй на ногі і спакойна йдзі маліцца.
Вылічаць бы надаела, колькі ў нас ёсць балагану.
Хай Бог крые і ратуе, каб не быў хоць замах стану!
Божа велькі, міласцівы, абудзіся, глянь на зямлю:
Чорт гуляе над пурпурай, Ты сабе спакойна дрэмлеш?!

## Дзецям Беслану

Першы дзень – пайшлі ў школу.
Колькі радасці, надзеі.
Не падумалі, не зналі,
Што нападуць іх зла-дзеі!

Трыста трыццаць дзевяць жыццяў.
У гэтым палавіна – дзеці,
Не ўгледзяць болей сонца,
Бо ўжо іх няма на свеце.

Варвар іх забіў, замучыў.
Як яго зваць чалавекам?!
Хто пражыў, жывым астаўся,
Стаў у псіхіцы калекай.

Калі татку растралялі,
Сынок кінуўся падняці.
І яго сягнула куля.
Ні пачом жыццё дзіцяці.

Болей трохсот – у бальніцах.
Зберагуць жыццё мо лекі?
Веліч варварства такога
Шчэ ні натавалі векі!

Так істота з пекла родам
Звонку – на від чалавека –
Дзяцей смерцю пакасіла,
А нібы верыць у Магамета.

Найпярод мужчын пабілі,
Бандытам былі пагрозай.
Голадам усіх марылі.
Цешылі іх дзяцей слёзы.

Мама мілую дачушку
Як магла, сабой закрыла.
Іх прашыў свінец бандытаў.
Ляжаць разам у магіле.

Кроў пралітая ў Беслане
Пала плямай Магамету.
Не аднаму тату і маме
За слязьмі не відна свету.

Плача горад, уся краіна.
Данясецца стогн да Бога.
Адымі ім, Божа, рукі,
Хай не робяць болей злога!

Розум злыдням чорт падкінуў,
Нячыстага яны слугі.
Хай згарацьіх цела й косці
І разгоніць вецер смугі.

## На заходзе

На заходзе свеціць сонца ва ўсе бокі.
На заходзе ходзяць людзі – метар крокі.
На заходзе ўсе простыя дарогі,
А дарогі ўсе вядуць да перамогі.

На заходзе толькі цёплы вее вецер.
На заходзе ўсё найлепшае на свеце.
На заходзе рабіць можаш ўсё што хочаш
І спакойна пры ахове спаць па начах.

Усё што Бог стварыў пазнаеш на заходзе.
Чорт свабодна сее бездань у народзе.
Сам нячысты мае поўную уладу.
Дэкалог валочыцца дзесь ззаду.

У гарадах стаяць прыгожыя святыні,
А заглянь туды – мангольскія пустыні.
Адышоў народ і топчацца па гразі,
А нахабна чорт у душу народу ўлазіць.

Сэкты, гангі дабіваюцца да рангі,
Людзям простым астаюцца толькі штангі.
Першым можна – ад муты да панавання,
Шэрай масе – послух пану і гараванне.

А як будзе, калі ў эру глабалізму
Улада стыль накіне свой капіталізму?
Алігархія, бонзы, еўра і даляры
Багабойны свет заплёнтаюць у хмары.

З працы люду плыць у космас будзе можны.
Тым што ўпадзе з носа цешыцца бездапаможны.
Ці ж мо Бог забыў пра нашую планету?..
Калі так, то будзе хутка канец свету!

## Захаваць свае прыметы

Зіма пройдзе, прыйдзе лета...
Дзеецца ад векаў гэтак.
Дарастаем і старэем.
Вецер нас кругом абвее,
Болей у вочы, менш да згоды...
Усякія ў нас прыгоды.
Каб сабраць іх – будзе кніжка!
Успомніцца Дзямян і Мішка,
І Надзейка Сінявока...
Колькі ран у душы глыбокіх
І ад ворагаў, і блізкіх...
І да сёння ў сэрцы блізны.
Ад маленства аж па старасць,
Не за часта была радасць.
Цыганом малых страшылі,
У школе ў лапу вучняў білі.
Войны бралі татаў дзеткам.
Жалі на чужых палетках.
Дарослі, было нялёгка
Выбіцца ў свет шырокі.
Мовай і культурай можам
Разіць вока ў вяльможаў.
Колькі ж пражылі няволяў
І з-за волі, і з няволі.

Акупанты з усіх бокаў.
Каб датрымаць свету кроку,
Прабіваемся як можам.
З бояззю і асцярожна.
За акном шарэе восень,
Вецер дзікі як заўсёды
І нагнаў да нас з заходу
Нам нязнаны стыль і моду.
І таму, каб быць сабою,
Захаваць свае прыметы,
Цэлым родам заспяваем
„Люблю свой край, старонку гэту!”

## Па сёння

На свет я явіўся ў час капіталізму
І трохі штось помню з таго часу,
Калі мама цыцкай сваёй адкарміла.
Падрос, бульбу еў з сырым квасам.
Валодзя сусед, сірата бедалага
І бульбы не меў пад дастаткам,
Лакома глядзеў калі я штосьці еў:
– Як добра табе, маеш татку.
Да школы пайшоў, пачуў першы раз
Невядомую польскую мову.
Не знаў гэтой мовы наш цэлы клас.
Колькі ж было караводу!
А потым вайна адна і другая,
Прыйшлі азвярэлыя немцы
І я без таткі застаўся таксама.
Служыць не хацеў звырадняльцам.
Закрылі школы, вывозілі ў Прусы,
Жыць цяжка было аж да болю.
Брат мой працаваў у немца з прымусу,
Заплаты не бачыў ніколі.
Вайна сатварыла Людовую Польску,
Жыццё забурліла як рэчка,
Школы для ўсіх, працы па пахі...
Думалі, так будзе вечна.

Не ўсім было з духам і загаласілі:
„Японію новую створым!"
Прайшло лет дзесятак і ўсе мы пазналі
Што гэтакі аптымізм быў хворы.
Не дымяць трубы, горны застылі,
Не збыць ні вугля ані серкі.
Парламентарнікі пра люд забылі,
У сейме адно бурды і сваркі.
Мільёны без працы, галодныя дзеці,
А вёсцы ледзь не прапасці.
Эліты бязстыдна гуляюць па свеце
За тое што ўспелі накрасці.
Карміліца наша, зямля хлебародная
Ляжыць і бясплодна ржавее,
Па фермах спулдзельчых, калісьці засобных,
Варожы скразняк толькі вее.
Мы цуду чакаем, што прыйдзе з заходу
І ўсё нам направіць, паможа,
Каб хоць не было так як перад вайною,
Крывапіўцам служыць – не дай Божа!

## Краіна няволяў

Краіна вяковых няволяў,
А так яе любім чамусь,
Бо тут мае шчасце, нядоля.
Ты родная мне – Беларусь!

Саюзы розных калёраў
Карысці табе не далі.
Вырывалі ў цябе па кавалку
Тваё радавітай зямлі.

Ворагі ўсякіх адценняў
Не ўспелі цябе задушыць.
Хочацца сёння мне толькі
Зямлі беларускай служыць.

А продкам сваім непакорным
Удзячны я сэрцам, душой
За сатварэнне ў няволі
Спадчыны мудрай такой

Ад Еўфрасінні Полацкай,
Ад хрысціянскіх святынь
Да партызанцкіх магілаў
Вялікай Айчыннай Вайны.

А сёння пакіньма ўсе споры,
Пагоня ці крыж ці звязда,
Уся Беларусаў дыяспора
Да працы, для свайго дабра.

## Свіслач рака

Ліецца Свіслач рака, а над ёй – два масты.
На прыгорку царква, блішчаць нашы красты.
Тут маёнтачак быў, Каліноўскі ў ім жыў,
Пра мужыцкі дбаў „ніз" і за тое павіс.
Пры адным із мастоў млын прыгожы стаяў,
У ім Міхась працаваў Гляйзер, кабзу збіваў.
Колькі ж ёсць вас мастоў – іх відаць, дзе ні глянь,
Тыя што ўспамянуў былі ў Мастаўлян.
Былі, але няма, іх глынула вайна.
Там граніца бяжыць, нам прыйшлося тужыць,
Каб пабыць у сваіх – нашы думкі на ніц.
Не прайсці ў Каласы ані да Грыцавіч...
Рэжуць нашу зямлю! За якія грахі?
Калі эксмаскалі, калі маналяхі.
Ці ж то Бог прыказаў так з суседзямі жыць?
Ад тытана ўцякаць, а слабога глушыць?

## Мы тут былі

Мы тут былі, мы тут былі.
Мы тута ёсць і тута будзям.
Адвечна тута мы жылі
І сёння хочам звацца людзьмі.
Ніхто сюды нас не прывёз –
Ані маскаль, ані татарын.
То Бог такі нам кінуў лёс
І мову даў і даў звычай.
Над Бугам вечна мы жылі,
Над Нёмнам і Беразіною.
Ляхі братамі нам былі,
Мы русам праваю рукою.
Патом Літвой нас сталі зваць,
Вярхом хацела быць Карона
І веру нашую таптаць,
Рымяніць нашыя імёны.
І хоць памог нам Веры-брат,
Каб не ўтапіцца ў чужым целе,
Усе збягаліся на захват
Забраць нам тое што мы мелі.
Айчыну мелі мы сваю,
Любілі так як родну маці.
Цяпер за гэтым я стаю,
Каб беларусам мяне зваці.

Я не хачу быць паляком,
Ані другога сорта русам.
Мой род – як кроў із малаком.
Я быў і буду беларусам.

## Табе тысячу лет

Беларусь, Беларусь, табе тысячу лет.
Сёння ты ажыла. Хай пазнае ўвесь свет.
Паланілі цябе палякі, русакі,
А пакончыць з табой мелі бальшавікі.
Колькі здзекаў, нягод ты ў вяках пражыла,
А свае ты душы злыдням не аддала.
Уніяцкі падкоп тваю веру таптаў
А расійскі мацар на Сібір высылаў.
А магіл не злічыць тваіх верных сыноў,
Тут не кончылі біць, пачыналі там зноў.
І тым болей цяпер я табой ганарусь,
Што мы верны сабе: я і ты, Беларусь!

## Я не Бог...

Я не Бог і не цар, не начальнік вайны.
Я – зямлі ўладар, шырыні, вышыні.
Не патрэбен патрон, не хачу ваяваць,
Каб шырокі загон – буду сеяць, араць.
Глянь на родны прастор – ён аж просіцца жыць.
А дзяўчат перабор – не здзівіць, не злюбіць.
Смерць пражыў – выбачай, не раздрапвай ты ран,
На супольны абед хай зайграе баян.
Той хто зброю куе, кабы свет загубіць,
Згіне сам – ад яе свет далей будзе жыць.
Хай сароміцца кат і ад злосці гарыць.
Колькі ж ёсць Курапат – Беларусь будзе жыць!

## Ці падумаў калі...

Ці падумаў хоць раз ты калі,
Што тут будуць расці асаты?
Не месціцца мне ў галаве:
Зямля нашая стогне, раве!
Збажына тут шумела як лес,
Яе Бог сам сцярог із нябёс,
Пахла жытам, аўсом, ячмянём,
Жняца вочы іскрылі агнём.
Зерне сыпала золатам клунь
А дажынкі гулі з усіх струн.
Пеклі торты із нашых пшаніц.
Можа, штосьці было з заграніц,
Але нам найсмачнейшым было,
Што на нашай зямельцы ўзрасло.
А пасек! Колькі ж было пасек!
Дыхаў мёдам кругом чалавек.
Ад грачыхі нясло як з бартца,
Не было грачыскам канца.
Глянь: чарнобель, асот і палын.
З іх мукі не намеле нам млын.
А млынам цяпер быць ці не быць:
Колькі ж іх без работы стаіць.
А цяпер хвайнякі, хмызнякі.
Па начах толькі выюць ваўкі,

Загрызаюць сялянам цялят.
Ці пакрые хто страты – наўрад.
Ці падумаў хоць раз ты калі:
Зарастаюць бадзевем палі
І дзічэе, дзе глянь, сенажаць,
А будоўлі нішчэюць-стаяць.
Ці падумаў хоць раз ты калі:
Унікраты к чаму нас давялі?
Наступіла такая пара,
Не хапіла
        гаспадара.

## Над табою хмары

Над табою хмары, хмары...
Беларусь, зямля мая.
Як не кляпсы, то ўдары –
Усё незавінёныя.

Калі це Літвою звалі,
Быў з чужой зямлі кароль,
Звонку нормы накідалі.
Беларусь спазнала боль.

Бог нам караля не кінуў,
Паявіўся можны цар,
І хаця прыгон загінуў,
Маскаля завіс цяжар.

Па вайне цябе дзялілі
Што на захад, што на ўсход.
Трактат Рыжскі ў няволю
Беларускі здаў народ.

На ўсходзе камсамольцы
І калгасы навакол,
На заходзе Брэст, Бяроза.
Няма беларускіх школ.

На вайне, што звем Айчыннай
Ад Масквы аж па Берлін
У баі згінуў чуць не кожны
Беларускай хаты сын.

І цяпер мы як сіроты.
Падзялілі нас мяжой.
Штораз меней нашай мовы.
Кажуць цешыцца чужой.

Божа велькі, міласцівы,
Глянь на нас як на дзяцей,
Вылечы нам цела, душу –
Молім Бога ўсё часцей.

## Сонца засвеціць

Імгельная цемра наш край ахінула,
Мы запалі ў санлівай начы,
Гамонкі і званы аняміла, папсула,
Ніхто не хацеў памагчы.

Доўга мы спалі, званы нас збудзілі:
Уставайце! Нам сонца ўзышло!
Прылады працы мы цвёрда хвацілі,
На нашым двары загуло!

Мы, беларусы, народ працавіты,
Не цяжка нам сеяць, каваць.
Нам паддаюцца алмазы, граніты.
Народны дэвіз: працаваць!

Збудуем пасады краіне, народу
І будзем шчасліва ў ёй жыць,
А цвёрдай ступою асвоім пагоду,
Навалу пакончым крушыць.

Праменнямі ўсімі нам сонца засвеціць,
Агрэе раздолле, бары,
Народ наш руплівы ў добрай прымеце –
Жыць будзе ад гэтай пары!

## Чаму такі ты

Чаму такі ты, беларус?
Чаму такі пахілы?
Цябе хватаюць нібы кус пажыўны
І мелюць сілай!

Жуюць, жуюць, аж пакуль сок
Увесь да цна пасмокчуць,
Тады ладуюць у мяшок
І хрысцяць так як хочуць!

Прымусяць „амэн” гаварыць,
Узяць із Рыму імя,
А Беларусь адно сварыць,
Клясці – няхай загіне!

Найболей ціснуць маладых
Нібы браты-палякі,
Калі ўжо знаюць – маем іх –
Задзержуюць каля клякі.

Адзін гаворыць: рускі ты,
Другі – паляк адвечны.
І не зазнаў ты дабраты,
Бо кожны це калечыў.

Дзялілі веру, рвалі край,
К Кароне далучалі.
Нас выганялі ў „рускі рай”,
Калі мы не маўчалі.

І застрашылі наш народ,
Таму такі пахілы.
Прыйшоў нам час ісці ўпярод,
Прагнаць навалу сілай!

Мы хочам жыць у сваім краю
І шанаваць суседзяў!
Абыме шчасце хай зямлю,
Ненавісць згіне недзе.

## Над Супрасляй

Над Супрасляй зямля
Беларускіх князёў
Да душы прылягла
Шумам вечных бароў.

А даліны лугоў
Аксамітны дыван
Жыць змушаў сто гадоў.
І ты знай – Твой род пан!

І ніхто не змяняў
Тваіх простых імён,
Ты крыжа цалаваў
Праваслаўных знамён.

Як даўно то было –
Болей чым пяцьсот лет.
Пятно потым лягло,
Як пракляты прадмет.

Як Карона табе
Стала ставіць правы,
Памяняўся твой лёс
З Дамы на ўдавы.

Наказалі крыжа
Класці цэлай рукой,
Падзялілі святых:
Гэта мой, гэта твой.

І ламаўся народ
З Драгічына па Слуцк,
Праклінаючы здрад
Чым хутчэй каб мінуў.

Яшчэ колькі было
Зямлі нашай зняваг.
Не канчаецца зло.
Болей скрыты працяг.

Над Супрасляй стаіць
Манастыр – велікан.
Колькі ж ты пацярпеў,
Колькі ты пражыў ран!

Цярпеў разам з табой
Беларускі народ.
І цяпер – хоць збаўляй
Сутаўні, перашкод.

## Бы ў вянку стаяла вёска

Бы ў вянку стаяла вёска
З простай вуліцай адной,
У канцы вёскі перакростак,
Што даваў задуму ёй.

Памяркоўныя тут людзі,
Дружныя нібы жыды;
Калі штось каму не выйдзе,
Не дапусцяць да бяды!

Мужыкі жылі багата,
Закаханыя ў зямлі.
Працавалі часам у свята,
Дагадзіць каб для раллі.

Брук ляжыць праз цэлу вёску,
Стаяць лаўкі пры платах,
А на іх пляткуюць бабы
Аб каханні, аб сватах.

Жыццё ў вёсцы бушавала
Як у вулеі вясной.
І дзяцей было нямала,
Маладзёжы цэлы рой.

Колькі стройных хлопцаў у вёсцы
І прыгожанькіх дзяўчат,
Колькі плётак, слоў нязносных,
Колькі спытак, добрых рад!..

Як вяселле – усе гуляюць,
Як хрысціны – усе п'юць
І другога зноў чакаюць,
А хрысцін цярпліва ждуць.

Колькі радасці было тут –
Не хватае ўспамін!
Вёсцы надыйшла „капота",
Замірае... і амін...

Людзі ў свет пайшлі за працай,
А старыя – у пясок.
На палетках ураджайных
Бог засейвае лясок

Пры дзьвюх рэчках у даліне
Былых радасных сялян...
Была вёска, а ўжо гіне.
І не будзе ўжо Дублян...

Невялікая рачулка
(Называлі Прынявец),
Ад гасцінца і па выган –
Весь Дубляны, і канец.

Далей не вядзе дарога,
Калі пойдзем – згубім бот.
Ля Нічыпора парога
Трэ рабіць паварот.

Ой, Дубляны, вы Дубляны...
Як было вас не любіць!
І калі ў той бок я гляну –
Толькі сэрца зашчыміць...

## Курная хата

„А мне сніцца курна хата",
Дзе я радзіўся, дзе я рос,
Адкуль мае і мама, і тата,
Адкуль мой беларускі лёс.

Калі жыхар пушчанскіх кнеяў
Патрапіў зацясаць вугол,
З бярвён чатыры склеціў сцены
І разлажыў у іх агонь.

Гуляе звонку дзікі вецер,
Ваконцам падае святло.
Кругом кастра гуляюць дзеці,
А сцены берагуць цяпло.

А дым завіс, прыкрыўшы шчыльна
Усе закамаркі і куткі,
У хаце робіцца прыхільна,
Ды толькі дбай пра аганькі.

Рагаты клёц за лаву служыць,
Да спання – прычы ля сцяны.
А доўгай ноччу цемра мучыць,
Хутчэй даждацца бы вясны.

З вярхоў сасны палілі дранкі,
Бяздымны з іх палаў агонь,
Асветліваў калі й да ранку
Зімовай доўгай ночы тонь.

Ішлі вякі, а свет мяняўся.
Не стала хата курнай быць.
Над стрэхай комін паяўляўся,
А дым пачаў на небе плыць.

„А мне сніцца курна хата",
Дзе я радзіўся, дзе я рос,
Адкуль мае і мама, і тата,
Адкуль мой беларускі лёс.

## Адзін у годзе дзень

Бывае ў годзе адзін дзень,
Такі адзін-адзіны,
Калі забудзем васьні ўсе
І зла ўсе прычыны.
Вячэрняй зыдземся парой,
Як усе на свеце людзі,
Успомнім тое што прайшло,
Абдумаем што будзе...
Пад неба стрэляць аганькі,
Шампан струёй пальецца
У гэты мілажданы час,
Што Новым Годам звецца.
Усім знаёмым і сябрам
Паціснем моцна руку,
Што нам паціснуць руку ўсе –
Хай будзе нам навукай,
І заспяваем „Многа лет”
І чокнемся стаканам.
Ад пар ажывіцца паркет,
Разыдземся над ранам.
Прыемна так злажыць усім
Найлепшыя жаданні:
Няхай нам шчасце вядзе прым
У працы і ў каханні,

Хай дзецям хваціць малака,
Вясела будзе ў школе,
А што ёсць вайна, бяда –
Не знаюць хай ніколі.
А маладым – гуляць, кахаць,
Свет цешыць маладосцю!
Няшчасцяў жадных не спазнаць,
А перашкодам спростаць!
Дарослым – цешыцца жыццём,
Па працы спаць спакойна,
Сваіх дзяцей не высылаць
На „саксы” ні на войны.
Здароўя, шчасця і дабра,
Заўсёды міла звацца
І не забыць пра гэты дзень,
Праз год каб зноў спаткацца!

## Новы век

Наступае новы век. Будзь шчаслівы, чалавек!
Непатрэбнае нам зло – яно ўжо ў нас было.
Веку, будзь для нас такі і ўсе наступныя вякі:
Добры і багаты будзь, хай шчаслівым цябе звуць.
Дзецям малака надой, а дарослым дай спакой,
Хлебам, працай надзялі – будзе шчасце на зямлі!

## У небе гром

Ёсць надзея. Шоста трыццаць,
Марца дваццаць першы дзень.
Добра навет прыцямнела,
Лёг на землю хмараў цень.

Бліскавіца засвяціла,
Пракаціўся ў небе гром,
Бура дрэва калаціла,
Дождж паліўся ручайком.

Паламаны слупы „сеці”,
Дрэвы вырваны з карэньмі...
Цешацца із буры дзеці:
Пагуляюць у ламавенні.

Праз гадзіну ззяе сонца
І настала цішына,
А я  адчыніў ваконца,
Рады з веснавога дня.

Дзед Мацей на неба глянуў
І такія словы кажа:
Калі ў марцу загрымела,
Снег напэўна ў маі ляжа!

Гэта трохі ўсё не ўпору:
Хай грыміць, як расце збожжа!
Дождж тады пылы абсадзіць,
Збажыне расці паможа.

Пабалакалі суседзі,
Кожны штосьці далажыў...
Бог такім дабром надзеліць,
На якое ты заслужыў.

## Снег прапаў

Снег прапаў, вада сплывае,
Усюды чорная зямля.
Ужо мароз не дакучае,
Нават ноччу – больш нуля.

Дзень раўняецца із ноччу,
Яго будзе прыбываць.
Толькі болей сонца хочам,
Каб зямельку аграваць.

На лугах траву ўгледзім –
Пачынае зелянець.
Із пралесак сінявокіх
Хочацца букецік мець.

Ляшчына цьвіце, пыліцца,
Барсук вылез із нары,
Азіміны аглядаюць
Мужыкі-гаспадары.

І трапечацца пад небам
Шчабятлівы жаўручок.
Сеў пры клетцы і кватэру
Абмяркоўвае шпачок.

То вясны пачатак толькі,
А колькі радасці дае!
Пацяплее – нам падарыць
Усе прыгожасці свае.

## Слава Маме

Мама толькі ўдзячная Богу,
А мы маме ўдзячныя ўсе.
Бог ёй даў прызванне такое:
Жыцця іскру на свеце нясе.

Мамай быць – найвышэйшае шчасце,
Запярэчыць не зможа ніхто.
Гэта слава і радасць, паняцце
Адно Усявышняму знана яно.

І хоць мамай быць вельмі каштоўна,
Адрачэцца ад розных выгод.
Дама Мамай быць хоча ўсёроўна,
Каб узбагаціць сям'ю і народ.

Што існуе свет – дзякаваць маме,
Што працуем, гуляем, жывем
І што свет увесь пахне каханнем!
Мамы дар праз свой век пранясем!

І далей перакажам патомным,
Бо і ў нас будуць мамы як след,
І паступяць так сама цудоўна,
Як усе мамы, каб шырыўся свет.

І якое сказаць маме дзякуй,
Як пацешыць, цябе цалаваць
І якім называць цябе знакам,
Каб належную чэсць табе даць?..

## Натура чалавека

Натура нам дарыць жыццё за жыццём.
Пажылы адходзіць, прыходзіць дзіцё.
І так прылягае да кольцоў кальцо.
А дзе ёсць пачатак? – Гаварáць: яйцо!

Яйцо гэта наша натура знясла,
Каб свет заістнеў, нам, людзям, аддала.
А спрытны й празорны зямлі чалавек
Жыццё прадаўжае із веку на век.

І як жа нам радасна робіцца ў хаце,
Калі з нашай дамачкі стаецца маці,
Калі пачуецца плач на пялёнцы,
Слоў не хапае падзякаваць жонцы!

Найбольшая радасць на сэрцы, душы,
Як мамай і татай завуць малышы.
Нядаўна былі мы ты толькі і я,
А сёння – шчаслівая наша сям’я!

У хаце ёсць дамы і ёсць ваяры.
Сям’ю абаронім мы ў кожнай пары,
А дзеці ўсмешкаю шчасце даюць.
Так сёння сапраўдныя сем’і жывуць.

А потым, а потым, калі прыйдзе час,
Наследнікі нашы прыйдуць за нас.
Пралажым дарогу мы для маладых
І шчыра памолімся за шчасце іх.

## Ідзе вясна

За гарамі красуецца сонца,
А ў нас усё мароз і туман.
Верым, што так не будзе бясконца,
Цёплы прамень засвеціць і нам.

Хоць вясна к нам імкнецца не проста,
Не адзін перад ёю парог,
Колькі згіне праменняў пад хлостай,
Колькі скрыўленых будзе дарог...

Прыйдзе час, лёды згінуць без знаку,
Спрытны вецер разгоніць туман,
А жыццё набярэ болей смаку,
Гаспадар на сваім будзе пан.

Адчуваецца подых вясновы,
Неўзабаве ільды прападуць.
Гаспадар ужо да працы гатовы,
На палях трактары загудуць.

І запахне жывою раллёю
Вызвалёнай з зімовых акоў.
Падымайся і цвёрдай ступою
Ідзі наперад, к сяўбе будзь гатоў!

## Жанчынам

Бывае ў годзе толькі раз,
А мог бы быць штомесяц:
Куплялі б кветкі мы для вас
І цалавалі б разоў дзесяць!

Вясёлы, мілы Дзень Жанчын –
Такі хай будзе кожны ў року,
Найлепшы ён і для мужчын,
Бо вашым цешымся ўрокам!

Вам сэрца й душу аддаем,
Не раз – да ёты розум!
Ад вас усмешкі толькі жджэм
Напоўненую дозу.

Няхай усе зоркі свецяць вам!
Здароўя, шчасця і кахання!
А служыць радасць хай штодня
На векі, ад зарання.

Хай на руках вас хлопцы носяць
А мужыкі шануюць, любяць,
А дзеці хай з развагай просяць,
А ўнукі перастануць скубаць!

Няхай вам сонца свеціць ясна,
Паветра пахне мёдам,
А мары вашыя пра шчасце
Спаўняюцца заўсёды!

## Эмерытам

Пакінулі бюры, станкі і машыны,
Бо час наказаў зрабіць гэтак.
Гудкі нас не клічуць па розных прычынах,
Пільнуем штодзень сваіх клетак.

На Крым не паедзем, Маёрку памылім,
Нашто піраміды, Канары!..
Шчасце на свой бок не перахілім,
Нат не пускай з губы пары...

Здароўе сваё аддалі для радзіны,
А час забірае астатак.
Калі перацерпім і восень, і зіму...
Грэй косці, прысеўшы ля хатак.

На хлеб нам прыносяць, куток якісь маем,
Нармальна працуюць нам мозгі.
А ўжо мы па тыдні выплаты чакаем...
Чаму ж гэты месяц так доўгі?!

Кладзем на здароўе і молімся шчыра;
Напэўна нас пусцяць да неба?
А з гэтай нагоды, што тлумна зышліся,
Папробуем у кропельках хлеба.

Заіскрацца вочы, нібы ў падлетка,
Забудзем, што спешна да раю!
Можа прысніцца, што дарыць канфеткай,
А я яму руку сціскаю?

Хай мы ўспомнім бестурботныя леты...
Жыццё – гэта драма і повесць.
На момант душа маладзее пры гэтым.
Узаемна пажадаем здароўя!

## Спявай

Прыйшоў на свет, як сын другі,
Чакалася дзяўчынка.
Было і радасці й тугі.
Не спаў я пад пярынкай.

Прайшоў садок, прапоўз ліцэй,
Спазніўся на кафедру.
Знайшоў куток паміж людзей
І рыў зямныя недры.

Задарма хлеба я не браў,
Была і ёсць радзіна.
Усё што ў чэрап назбіраў,
Пераказаў для сына.

Цяпер падумаю не раз:
Чы выдаваць на лекі?
Чы свойскім горам гараваць,
Пака пайду навекі?..

Калі яшчэ прыйшоў сюды
І бачыш тлум народу,
Цягні віно да барады,
Глытай на асалоду!

Спявай, пака цябе дзяржаць
У кружку эмерытуры.
Ні вуж ні жэнь – жыцця не дасць,
Не ўвойдзеш ад натуры,

Таму кілішак налівай!
З віном – далоў трывогу!
За гэты добры абычай
Вялікі дзякуй Богу!

## Даспявае жыта

Даспявае жыта,
Даспявае збожжа.
Уражай сабраць нам
Просім – Бог паможа.
То не тыя леты,
Што сярпамі жалі,
Косамі касілі,
У снапы вязалі,
Малацілі цэпамі,
У вярху круцілі,
Моцна націскалі
І па снапах білі...
Сыпалася зерне
З каласоў даспелых
Запасам на зіму.
Хлеб есць будзем смела.
У жорнах малолі
Рашчынялі ў дзежах.
Лепшы быў ад булкі
Ржаны хлябок свежы.
Наступілі змены
У дваццатым веку.
Натварыў машынаў
Розум чалавека.

Ніхто не збірае
Ні сярпом, касою,
Чалавек у машыне
Круціць галавою,
А машына сее,
Жне і памалоціць...
Чалавеку працу
Напалам скароціць.

## Чарачку налівай

Прыйшла вясна і лета,
Восень кладзе свой цвет.
Меней красы ў кветах,
Нам прыбывае лет.
У сына блішчыць лысіна,
Унучка студэнткаю.
Не за гарой канчына...
Часам падумаю:
Лёс нам не быў ласкавы
Ані прыязны свет,
Да працы йшоў і кульгавы...
Трывалы аставілі след.
Была радаснай праца
За станком, на раллі...
Сівізна нас пакрыла
Невядома калі.
Веды свае, таленты
Нашчадкам перадалі:
Хай шчаслівымі будуць
Гаспадарамі зямлі.
Пройдемся тратуарам,
Кабы тугу пазбыць...
Часта не маем пары.
Так прыходзіцца жыць.

Радасць: чакаем праўнука,
Таму хочацца жыць.
Нярэдка бярэ скука,
Час захутка бяжыць...
Але не падай духам,
Чарачку налівай!
Перажылі завірухі!
Цяпер – толькі гуляй!

## Пражылі мы...

Пражылі мы, як прыйшлося.
Лёс для нас не быў ласкавы.
Забіваліся работай,
Каб не збракла ў хаце стравы.

Дзяцей у школы выпраўлялі,
Норма працы нас чакала,
І хоць шчыра працавалі,
Грошай заўша было мала.

Усё праходзіць – радасць, мары...
Астаюцца ўспаміны.
Цяпер часта – сум на твары
І пакрыўленыя спіны.

Але й радасці хватае:
Прыязджаюць дзеці, унукі;
Інжынеры, афіцэры,
Людзі значнае навукі.

Каб забыць і жаль, і смутак,
Што нас дзеці не дзяржацца,
Сабраліся мы вось тутай,
З калядой кабы спаткацца.

Дзякуй уладам эмерытаў,
Што ўлажылі труду спора,
Каб маглі мы падзяліцца
Асвяшчэннаю прасфорай.

## Восень

Восень зямлю пакарыла,
Разаслала туман шэры,
Лісце дрэў пазалаціла.
Прачыняе зіме дзверы.

Халаднейшыя ўжо ранкі,
Штораз меншы дзень ад ночы,
Птушак не чуваць па парках,
Бусел па лугах не крочыць.

Жураўлі адно ключамі
Адлятаюць дзесь у вырай
А імглістымі начамі
Свет стаецца як пад кірам.

Калі пройдуць Усе святыя,
Спадзявайся толькі горай:
Ночы доўгія такія,
А дзянёк – нібы заморак.

З гразі, мазі стане груда,
Мароз будзе паяўляцца.
Надаесць глядзець на смутак!
Снегу каб хутчэй даждацца!

Цяпер восень, як ніколі.
Жджэм мы ўжо твае манеры.
У пост Піліпаў ля Міколы
Для зімы адчынім дзверы.

## Наша восень

Была зіма, вясна і лета...
Мова будзе пра ўсё гэта,
Болей усё ж пра нашу восень,
Бо багацце нам прыносіць.
Вясной усюды цвітуць кветкі,
Дзянькі цёплыя улетку,
Што цяпер жыць пачынае.
Усякіх ягадак і ягад
Назбіраем праз прыпадак.
Дзе ні пойдзеш, дзе ні ступіш
Назбіраеш штось, налупіш.
Восень нас узбагаціла,
Божым дарам накарміла:
Хлебам, мёдам, садавінай.
Пражывем спакойна і зіму.
Усім дзякуй порам году,
А для восені найболей.
Яна змусіла прыроду
Служыць верна нашай долі.

## Успамінай

Жыццё – найвялікшае шчасце,
Якое Бог даў чалавеку.
А трэба табе знаць прынамсі,
Што будзеш ты старэцца з векам.

А розум здабыць трэ самому
На добрых кафедрах, практыках.
Залатва не верыць нікому,
З развагай скакаць па кубіках.

Бо знаеш, яны маюць канты
І нібы падложа дзяржацца,
А зробяць цябе на „палянта”,
Не будзе калі аглядацца!

Ды гэта ўсё ўжо за намі
І шчасце і поспехі, няўдачы.
Каб век шчэ пазволіў жыць далей,
Пражыў бы таксама, не іначай.

Жыццё павышэнні давала:
Дырэктар, прафесар, рабочы,
А старасць усіх параўняла,
І кожны з каляскаю крочыць.

І з думай не раз успамінаем
Рэкорды фантазіі, спрыту,
Драбносткі хай коцяцца краем,
Такія, што толькі „да кіту”.

А памяць усяго нанізала:
Як ставілі знакі няўмела,
Як мама ў свет выпраўляла,
Як сэрца з любові шчымела...

І кідалі нас па работах,
Бывала, знялі без прычыны.
Як можнасць была, то з ахвотай
Спяшалі да хат, да айчыны.

Калі ўжо няздольны да працы,
І жджэш на парозе выплаты,
Тым цешся што быў не абібокам
І кветкі садзі каля хаты.

Дзяцей спатыкай і ўнукаў,
І радасць паявіцца ў хаце.
Не думай пра мукі і смуткі,
Пра славу, пра трон, пра багацце.

І хоць невялікая каса,
Ды часам на чарачку хваціць
(Што праўда не вельмі ўжо ласы...).
Спяшайся, каб часу не траціць!

## Андрэй

Андрэй быў Андрэем.
І чуць апрысклівы.
І быў найважнейшы ў хаце,
Рабіў толькі тое што вецер навее.
Не слухаў ні бацькі, ні маці,
Калі на „Андрэйкі" дзяўчаты чудзілі,
Андрэй „варажбой" захапляўся,
Круціўся, вярцеўся, хацеў знаць што будзе
І ў Касі кафтан ён папаўся.
А спрытная Кася не папусціла:
Андрэй, ты нарушыў граніцу!
Як анёл-ахоўнік як шоўк, далікатна,
Яго завінула ў спадніцу
Мітусіцца братка ды не наракае:
І здолеў я так памыліцца!
Я думаў, якую тут ролю сыграю,
А прыйдзецца, мусі, жаніцца!
Андрэй стаў спакойны і клапатлівы,
Прапалі ліхія прыметы.
Відаць, як здароўе патрэбныя людзям
„Андрэйкавы" гаданні–сакрэты!

## Кацярынка

Кацярына, Кацярынка,
Для мяне ты як іскрынка!
Як іскрынка, як зарніца,
Як цыганка-чараўніца.
Мяне вабіць твае цела,
Прызнаюся табе смела.
Чорцікі ў тваіх вочах
Не даюць мне спаць па ночах.
І не сплю я аж да ранку:
Можа, з'явіцца на ганку?
А калі цябе ўгледжу,
То на месцы не ўседжу!
Дай мне руку, пацалую,
Бо люблю цябе адную
І хачу з табой, канечне,
Пражыць у шчасці цэлу вечнасць.
Ты жыццём мне, маім светам,
Як зара ўкойным летам.
Ты як Юлія, Рэбека,
Як букет чароўных кветак.
Прысягаю, дарагая,
Не звядзе мяне другая!
Ты ўказала мне дарогу,
Не зыйду з яе, ейбогу,

Не зыйду, бо добра знаю,
Што з табою не прайграю.
Не прайграю, шчасце будзе,
А нам пазайздросцяць людзі.
Кацярынка мая, Кася,
Ту паслухай долі нашай:
Для цябе, як скажаш толькі,
Паздымаю з неба зоркі
І асыплю тваю постаць,
Каб тваёму сэрцу спростаць.
Абдару цябе калечкам,
Ты прысягнеш мне на вечнасць...

## Выкідайце тэлевізар!

Выкідайце тэлевізар!
Гэта велькі злодзей часу.
Без яго жылося лепей,
Хаця елі бульбу з квасам!

Тэлевізар выкідайце!
Не дае ён жыць дзяўчатам
І каханні памыляе,
Дзе канец, а дзе пачатак.

Кавалерам робіць штучкі
І губляеш часам пару,
Падкідае баламутку
Колькі хочаш, давай жару!

А жанчынам муціць воду:
Недаецца зварыць супу!
Калі хочаш, то навучыць
Як з ганорам жыць на купу!

А мужчына – як машына:
Ад мяцёлкі да гарматы.
Тут не лічыцца прычына,
Пайшоў вон, як небагаты!

Выкідайце тэлевізар!
Вернецца дзяўчатом слава.
Канец будзе гіпакрытам!
Пагуляем на мураве!

Тэлевізар выкідайце!
Людзям будзе часу болей!
Будзе суп, каханне будзе.
Натуральнай стане доля!

## Астатняя картка

Астатнюю ўжо абарвалі
Картачку з календара.
Дзякаваць Богу, даждалі.
З Годам Новым вітацца пара.

А здаецца, было гэта ўчора:
Сустракалі адыходзячы год,
А было ў ім шчасце і гора,
Шмат здарэнняў і розных турбот.

У Марысі дачка выйшла замуж
І, здаецца, чакаюць хрысцін,
За другою не меней павабнай
Спаглядае хлапец не адзін.

Ясь на слупе разбіў самахода,
Быў у Іраку, ваяк, Алькаў сын,
Крок зрабілі бліжэй да Заходу;
Працэнт дваццаць без працы мужчын.

І жанчынам няма ў краю працы,
Едуць дзесьці ў свет зарабляць,
Паніжацца, служыць еўрапанам
І славянскую вернасць губляць.

Пражылі год, і дзякаваць Богу.
Яшчэ з голаду дзеці не мруць.
А галодным у розных ахронках
Калярыйную зупу даюць.

Пачакаем цярпліва да мая.
Ад мая жыць будзе лягчей
Бо цяпер мы яшчэ перад раем.
Каб даждацца да раю хучэй!..

## Баба свята дачакала

Баба свята дачакала,
Каля дзеда тупаць стала:
– Ой дзядуню, мой саколе,
Пройдземся мо лесам, полем...
Баба дзеда прытуліла,
Шапятала, гаварыла...
Усяго на свеце трэба,
Не жывем адно для хлеба.
Дзеду, быў такі ты рэзкі,
Падглядаў мае падвязкі,
А я іх цяпер не маю...
Сцежка проста як да гаю...
А ў гаю, а ў гаёчку
Баба вешала сарочку.
Пад сарочкай вецер вее,
А дзядуля бабцю грэе.
Будзе, дзеду, дзеду, будзе,
Што калі падгледзяць людзі?!
Скажуць: яны падурэлі,
На старасць грэцца захацелі!
Думала я, што так „на нібы"!..
Ой, нагрэў мае ты скібы!
Я табе за гэта, дзеду,
Дам дзве порцыі абеду!

Вырабіў сабе дзед марку!
Налівае баба чарку!
Святкавалі мы багата.
Каб хутчэй зноў было свята!..

## Май прайшоў

Май прайшоў і ўжо па леце, чуецца асенні вецер.
Ад яго нідзе не дзецца. Гэта ўсё жыццём завецца.
А што дзень хучэй усё вее халадней і халадней.
Не бядуй, што вецер вее, Люба, я цябе пагрэю.
Грэй ні грэй, мой даражэнькі, будзе з таго толк нявелькі!
Я ж цябе сабой прыкіну, толькі хоць бы на хвіліну!
Думаць так я перастала... Знаем, што ўжо восень стала.
Калісь было болей толку, я ж дала табе Міколку,
І Міколку, і Агату; як развесялялі хату!
Ужо цяпер спіна сцвярдзела, негарачае ўжо цела.
Сам, саколік, добра бачыш, як работаньку партачыш!
От, пляваць бы перастала! Добра ўспомніць, як бывала!

## Гарадок залівам горды

Гарадок залівам горды
З вадой чыстаю як слёзы.
Тут жывічныя сасонкі
І зялёныя бярозы.

І паветрам лёгка дыхаць,
Няма дыму, пахне вёскай...
Вада кліча, прыцягае,
Хто ахвотны – можа плёскаць.

На уік-энды нават з места
Прыязджае людзей спора,
Не адна ў цяні невеста
Нажыла сабе тут гора...

Хоць бы з Дзесянцін Тарэска
Прыязджала нібы „дэска",
Павадзіў яе Семяжка,
І цяпер ходзіць ёй цяжка!

Пэўна будуць з тога людзі,
А што далей з гэтым будзе?
Сёмка пырснуў, як прыкмеціў:
„Мусі запыліў це вецер?"

Што другое – у Альжбеты
Характэрнае кабеты:
Яна знала як ступаці,
Каб Міхалка прыкляпаці!

Калі ў ваду захацела,
Памагаў ёй раздзявацца.
У Элькі з цела выйшла цела,
І няма як выракацца.

Глеба плодная такая
І здаровае паветра,
Жыццё новае ўзрастае.
Непатрэбная і салетра!

Халадок спрыяе яркім
А распаленым – вадзіца
Прыязджаюць ружы-кветкі,
Ад'язджаюць – маладзіцы!

## Шчодры вечар

Шчодры вечар, шчодры вечар,
Жджэм цябе мы цэлы год
І не раз сабе намецім,
Дзе і каму падстроіць плот,

Каму брамку з плоту здымем,
На суседаў кінем стог,
Барану на клуню ўкінем,
Гаспадар каб зняць не мог.

А там дзе дзеўчына ў хаце,
То напэўна будзе знак:
Хто яе кахаці хоча,
Чы багаты, чы бядняк.

Як багаты – то ля хаты
Стане грубы клёц-таўкач,
А як бедны, то на тычцы
Пераломаны дзяркач!

Ад прыгожанькай Марылькі
Ссыплем сцежку за сяло,
Бо яе з суседняй вёскі
Любіць хлопец Васілёк.

Яську з Валяй сцежка злучыць:
Ясь, каханне не скрывай!
Бо каханне жыць навучыць,
На зямлі спазнаеш рай!

Асям, Элям чмут падкінем,
Бо шкада лет марнаваць:
Замуж выйсць і так не міне,
Лепей змоладу кахаць!

Куль саломы разасцелем:
Ганка Юлькава пыхціць.
Спяць яны ў адной пасцелі:
Хутка бусел прыляціць!

Фэнабэрыстай Веронцы
Уставім дзеда ля акна,
Бо яна не любіць хлопцаў:
Хай глядзіць на балвана!

А калі абрыднуць штучкі,
Да свайго бяжым кахання
Засядаем із радзінкай
І шчадруемся да рання!

## Адам і Ева

Адам з простай гліны быў
Ева з лясаванай,
Таму Адам зямлю рыў,
Ева была паняй.

У яе цела – нібы шоўк
Чыстае румяніць,
А Адам каменя тоўк –
Рукі з мазалямі.

Чы так Бог хацеў зрабіць,
Чы Адам так волеў,
Што яму прыйшлося жыць
У Евінай няволі?

Адам сее і куе,
Сцеражэ пакою,
Часта Еве вызнае:
Найляпей з табою!

І жыве Адам як цар,
Хоць нібы ў няволі:
Поўнай губай гаспадар,
Служыць Еве воліць.

Для Адама аддала
Ева сэрца й душу.
Простай сцежкай давяла
Стаць прыкладным мужам.

І цяпер жывуць яны
Так як роўны з роўным,
Сваймі цешацца дзяцьмі,
Шчасця хата поўна!

## Наташа

Душа паявілась на свеце,
А цела дзяўчынкі было.
Кругом рассыпалася квецце,
А сэрца ад шчасця расло.

Наташа, Наташа, Наташа...
Ты нашая радасць і смех!
Наташа, Наташа, Наташа,
Ты – пік нашых мараў-уцех!

Праходзілі дні за дзянькамі,
Так хутка, як толькі маглі.
Наташа спавіта квяткамі,
Да шлюбу яе павялі.

Наташа, Наташа, Наташа,
Ты – шчасця, любві вышыня.
Наташа, Наташа, Наташа,
Ты – свет найяснейшага дня.

Схіляецца сонца з палудня,
Не можам яго завярнуць.
Маленькія нашы Наташы.
Наташу бабулькай завуць.

Наташа, Наташа, Наташа,
Ты зло ўсё пускаеш на дно.
Наташа, Наташа, Наташа,
Мы заўжды з табой за адно.

Мы сэрца табе адкрываем
З пакорай, з любві, з пачуцця,
З табою, Наташа, мы знаем,
Што свету не будзе канца.

Наташа, Наташа, Наташа,
Малітва табе і віно.
Наташа, Наташа, Наташа,
Табе – найніжэйшы паклон!

## Ева

Меў Адам гаркавую міну.
Усямоцны Бог замеціў гэта:
Ты, Адаме, шыкуй гліну,
Злепім ляльку чы кабету.
Адам гліну прыгатовіў,
Бог стварыў архітэктуру:
З ласкі Божае асновай
Расце новая структура.
Ужо гатовая галоўка...
Выйшла, ну, нібы княгіна.
Як мядовая вішнёўка,
Як маёвая вяргіня.
А ніжэй – прыклеім грудзі:
Будзе права, будзе лева.
Мусі, будуць з тога людзі!
Назвем яе мы Ева!
Стан выгібісты, дзявочы
І да працы, і да ночы,
Бо ўсё гэта з добрай гліны,
Спалучона Божай слінай.
Так як мухаў ловіць жаба.
Будзе дзеўка то чы баба?
Гэта на патом адложым.
Трэба будзе, штось зварожым.

Другі бок, што ў перахіле,
Усё аблюжым чэрствым целам,
От, такім, нібы пружыны;
Будзе зводкай для мужчыны.
І жывот – на ўсе драбязгі,
Із запасам на тры полкі.
Калі выжэй – выйдзе мязга...
Пашукаем тутай толку!
На вярху пупок намецім;
Будзе месца і на дзеці.
А раздзел прымажам трошкі
І далей пацягнем ножкі...
Адам глянуў, скуль выходзяць.
Цацкі мне тут не зашкодзяць!
І падумаў: усё ж із гліны!
І далей пайшло – без сліны.

## Заблішчэлі пяткі

Да папа чорт падхмызіў,
Разам п'юць гарэлку.
Чорт чырвонцаў палажыў,
Поп змяніў на мелкіх.

Гэй, ты, попе, не шуці,
Не шкадуй на водку,
Будзе нам не па пуці,
Як заморым глотку.

Глотку хлебам запаўняй,
То не будзе гора!
І ад рана да паўдня
Із папом чорт спораць.

І поп чорта падхваціў,
Выкінуў за дзверы,
І да хаты не пусціў:
Ідзі ты да халеры!

Што рабіць? – падумаў чорт. –
Поп пойдзе маліцца,
А я ў святліцу – гоп!
Буду весяліцца!

Столькі маю я дабра,
Усё для весялосці.
У міг паявіцца сварба,
Трашчаць будуць косці.

Поп святліцу пасвянціў,
Скрыўся чорт у куточку.
Свае рожкі скараціў,
Дрыжыць, жджэ да ночкі.

Глянуў чорт: крыжом рука,
Забыў пра занятткі
І засунуў драпака,
Заблішчэлі пяткі!

## На чарку не згадзіўся

Калі настаў Піліпаў Пост,
Вяселля ўжо не будзе,
Чорт паміж ног уціснуў хвост
І пры кожнай нагодзе
Умільна просіць: хадзі са мной,
Хаця бы на хвілінку,
Я маю чарку тут з сабой,
І ў сумачцы сланінку...
Не слухай, што там кажа поп,
Што нельга весяліцца.
Я знаю: з цябе цвёрды хлоп,
Такі ніц не баіцца!
Паціху вып’ем чарку-дзве,
Паявіцца натхненне
І засвітае ў галаве.
Нашто табе маленне?!
Падумай Ясь: нашто мне зло,
На чарку не згадзіўся,
Нячыстага пагнаў калом
І стаў, перахрысціўся.

## ЗМЕСТ

